Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
1 лістапада 2001 г.
№ 44 (540)
Кошт 130 рублёў

## Заўтра Дзяды

**У пятніцу, 2-га лістапада Гарадзенская гарадская арганізацыя БНФ «Адраджэньне» адзначае Дзяды. Памяць славутых гарадзенцаў будзе ўшанавана ўскладаннем кветак.**

Мерапрыемствы пачнуцца а 10-й гадзіне. Запрашаюцца ўсе ахвотныя. Збор у штаб-кватэры БНФ па вуліцы К.Маркса,11. Тэлефон для даведак: 72-11-83.

Алесь Зарэмбюк

## Вярнулі «Пагоню»

**У мінулую пятніцу служачыя жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада прымацавалі на месца шыльду з выявай герба «Пагоня», сарваную з помніка ля Каложы невядомымі вандаламі два з палова тыдня таму (гл.ПАГОНЮ N43 ад 25 кастрычніка).**

Узнаўленнем шыльды заняўся гарадзенскі гарвыканкам.

*- Гэта, безумоўна, быў акт вандалізму. Аднак знайсці людзей, якія яго ўчынілі, фактычна немагчыма,* - лічыць старшыня прэсавай службы гарвыканкама Віктар Жалязняковіч.

Таму крымінальную справу па факту вандалізму не заводзілі.

Алеся Сідлярэвіч

## Падаражэў праезд у аўтобусах

**З 29 кастрычніка ў сярэднім на 30 адсоткаў вырас кошт на праезд у аўтобусах па прыгарадных і міжгародніх маршрутах.**

Зараз квіток ад Гродна да Менска ці Брэста каштуе 7.472 рублі (раней - 5.738), да Ліды - 2.993 рублі, да Скідаля - 765 рублёў.

На большасць міжнародных маршрутаў кошт квіткоў застаецца пакуль ранейшым. Падаражэлі толькі самыя папулярныя для прадпрымальных гарадзенцаў рэйсы: квіток на «Гродна - Беласток» каштуе зараз 9.800, што на тысячу рублёў больш, чым раней, а плата за праезд да Варшавы падвысілася з 12 да 16 тысяч рублёў.

Юлія Дарашкевіч

## Баскетбалістка патрабуе заробак праз суд

**Учора суд Ленінскага раёна нашага горада разглядаў спазыск баскетбалісткі Святланы Гапонавай да баскетбольнага клуба «Алімпія».**

Былы капітан гарадзенак патрабуе ад кіраўніцтва «Алімпіі» выплаты запазычанасці па заробку на працягу чатырох месяцаў.

*- Я ўжо перастала верыць пустым абяцанням кіраўніцтва «Алімпіі»,* - адзначае **Святлана Гапонава**, *- таму вырашыла звярнуцца ў суд.*

На жаль, ранні выхад нашай газеты не дазволіў даведацца, чым скончыўся ўжо трэці разгляд спазыска Святланы. Відавочна, што калі патрабаванні баскетбалісткі будуць задаволеныя, у суд з аднолькавым спазыскам звернецца і Кацярына Шупляцова, якой «Алімпія» таксама вінавата заробленыя грошы. Відавочна, што такія выплаты паставяць «Алімпію» ў яшчэ больш складаны фінансавы цэйтнот.

Язэп Баршчэўскі

**НАДВОР'Е**

2 лістапада ўначы - дажджы, вецер заходні, 5-10 м/с, удзень - воблачна, з праясненнямі, вецер паўночны, 6-10 м/с; тэмпература паветра ўначы +3...+5, удзень +4...+6. **3 лістапада** - воблачна, без ападкаў, **вецер** паўднёва-заходні, 4-7 м/с; тэмпература паветра ўначы 0...+2, удзень +3...+5.



Фота IREX/ProMedia

# На Гарадзеншчыне знойдзеныя чатыры канверты з невядомым парашком

**Канверты з невядомым парашком былі выяўленыя на мінулым тыдні адрасу ў чатырох месцах Гарадзеншчыны. На шчасце, асцярогі адносна таго, што парашок мог змяшчаць споры сібірскай язвы, не пацвердзіліся. Тым не менш супрацоўнікі пошты, якія апрацоўваюць дасланыя ў Гродна лісты, працягваюць працаваць у стэрыльных пальчатках, ватна-марлевых павязках ці рэспіратарах.**

24 кастрычніка ўвагу супрацоўнікаў паштовага аддзялення №29, што па вуліцы Горкага, прыцягнуў падазроны канверт без адваротнага адрасу, які меўся патрапіць у паштовую скрыню ў Менску. Пальцы паштарак беспамылкова вызначылі, што паміж аркушамі паперы знаходзіцца нейкае сыпкае рэчыва.

Выкліканыя супрацоўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях адправілі карэспандэнцыю ў лабараторыю Гарадзенскай абласной санэпідэмстанцыі. Аналіз паказаў, што жаўтаваты парашок з перцавым водарам з'яўляецца пераперцатымі макаронамі з сухога супу «King Lion».

У той жа дзень да санэпідэміёлагаў звярнуўся жыхар дома 12/1 па вуліцы Кабяка, які ў сваёй паштовай скрыні знайшоў канверт з невядомым парашком. Паштовыя штэмпелі дазволілі вызначыць, што ліст прыйшоў з Польшчы. Канверт з брудна-шэрым парашком у гэты ж дзень атрымала таксама Скідальскае паштовае аддзяленне. Наступным днём белы парашок прыйшоў па пошце жыхарам адной з кватэраў у Ваўкавыску.

У лабараторыі Гарадзенскай абласной санэпідэмстанцыі пробы парашку змясцілі ў спрыяльны для мікробаў асяродак. Але ні ў адным з выпадкаў ніякай атруты, шкоднай для чалавека, не выявілі.

Юлія Дарашкевіч



## Пачалася падпіска на першы квартал 2002 года!

**Хочаш чытаць лепшую газету Беларусі - падпішыся на ПАГОНЮ! Няхай тое самае зробяць твае суседзі, знаёмыя, сваякі!! Разам з ПАГОНЯЙ вам лепей будзе арыентавацца ў жыцці і прымаць слушныя рашэнні на сваю карысць!!!**

**Падпіска прымаецца ў кожным паштовым аддзяленні.**

**Падпісацца можна таксама і ў рэдакцыі газеты па адрасе К.Маркса, 11 (другі паверх), альбо па тэлефоне 72-29-96**

## Бразільскі гітарыст грае для гарадзенцаў

**Сёння, першага лістапада, у Канцэртнай зале «Гродна» адбудзецца канцэрт сусветна вядомага бразільскага гітарыста Фабіо Занана.**

Лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў наведае Гродна ўпершыню. Гітарыст выканае для гарадзенцаў творы на музыку шасці кампазітараў: Эдуарда Ангула, Яна Бабровіча, Франциска Міньёна, Эйтора Віла-Лобаса і Дамініка Скарлоці. На канцэрце прагучаць «Вялікі паланэз» опус 24, апасіяната, шэсць эцюдаў і пяць вялікіх санатаў. Квіткі на канцэрт гітарнай музыкі каштуюць 2000-3000 рублёў.

Віктар Сахарэўскі

## Гродна - Міндэн: сяброўства на вякі

**Проста захапленне! Так можна ахарактарызаваць агульнае ўражанне нямецкай дэлегацыі з горада Міндэна, якая на працягу некалькіх дзён гасцявала ў Гродне па культурнай лініі. У гасцях заўсёды добра. Але прымаючы бок (наш, беларускі) гэтым разам паруліўся асабліва. На пытанне «Якое ваша найлепшае ўражанне?» ніхто з дэлегацыі не змог адказаць адназначна: называлі адразу і выступленне Гарадзенскай капэлы, і наведванне галерэі «У Майстра», і інтэрната для дзяцей са слабым зрокам, і экскурсію па раддому, і паездку ў Абухава, дзе дзеці зладзілі выдатны канцэрт, і спектакль у тэатры лялек.**

Праграма была настолькі насычаная мерапрыемствамі, што гасцям не было калі проста па-людску паразмаўляць са сваімі сябрамі, якіх за дзесяць гадоў пабрацімства ў некаторых з дэлегацыі з'явілася нямала. Але гэта, як сказаў намеснік старшыні таварыства «Гефіс» (аб'яднання гарадоўпабрацімаў) у Міндэне Пэтэр Зіман, усё роўна нельга залічыць да адмоўных момантаў сустрэчы. Хутчэй, да выдаткаў гасціннасці.

Самым галоўным вынікам візіту можна назваць падпісанне двухбаковай дамовы аб стварэнні таварыства партнёрскіх сувязяў Гродна-Міндэн. Яго ўзначаліць дырэктар Гарадзенскай школы N15 Сяргей Новікаў. Пэтэр Зіман лічыць, што са стварэннем таварыства партнёрскія кантакты абодвух гарадоў у пытаннях культуры, адукацыі, спорту стануць больш цеснымі і прадуктыўнымі. Магчыма. Але асабістыя кантакты наўрад ці адыдуць на другі план. Узяць хаця б гуманітарную дапамогу. Усе ведаюць, што яна на 100 працэнтаў - плён асабістых сяброўскіх сувязяў.

Ніна Палуцкая

## «Тры шрубы» загадалі доўга жыць

**Разрэкламаваны ў афішах Гарадзенскай абласной філармоніі традыцыйны фэст рок-музыкі «Тры шрубы», які меўся прайсці ўчора ў Канцэртнай зале «Гродна» з удзелам гуртоў з Польшчы і Беларусі, не адбыўся.**

Рэч у тым, што чыноўнікі з гарвыканкама не далі згоды на правядзенне імпрэзы, баючыся, што яна будзе мець палітычную афарбоўку. Не ўзяло на сябе адказнасць за «змест песень» і кіраўніцтва філармоніі. Падобна на тое, што традыцыйны рок-фест «Тры шрубы» ў гэтым годзе ўвогуле не адбудзецца.

Людвік Сарока

# Вось прыедзе барын...

Заўтрашні візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Гродна абяцае стаць чарговым разносам для мясцовай чынавенскай і гаспадарчай браціі. Шоу можа суправаджацца кадравымі прызначэннямі, адстаўкамі, выкрыццём у карупцыі і, не выключана, неадкладным узяццем вінаватых пад варту. Хаця...

Паказальна, што за некалькі дзён да візіту галавы дзяржавы ў аблвыканкаме яшчэ зялёнага паняцця не мелі аб праграме візіту прэзідэнта ў Гродна.

- Мы яшчэ не атрымалі ніякай інфармацыі пра гэта з Адміністрацыі, - заявілі ПАГОНІ ва ўпраўленні па арганізацыйна-кадравай рабоце аблвыканкама. - Напэўна вядома толькі тое, што А. Лукашэнка сустрэнецца з кіраўнікамі раёнаў і прадпрыемстваў вобласці. Зараз мы займаемся рассылкай запрашэнняў.

На пытанне адносна тэмы і задачаў маючай адбыцца нарады ў аблвыканкаме толькі бездапаможна паціскаюць плячыма: «Не ведаем».

Зрэшты, калі меркаваць па шматлікіх праблемах крымінальна-кадравага характару, якія апошнім часам бударажаць гарадзенскую грамадскасць, галоўнай задачай выступлення Лукашэнкі перад «партгасактывам» можа стацца прэзідэнцкае бласлаўленне і падтрымка Уладзіміра Саўчанкі ў паслядоўным выкараненні са структураў улады вылучэнцаў былога старшыні аблвыканкама Аляксандра Дубко.

Паказальным у гэтым сэнсе павінен стаць дазвол зацягнутай на паўтара месяца праблемы прызначэння старшыні Гарадзенскага гарвыканкама. ПАГОНЯ раней пісала пра цяжкасці, што ўзніклі з падборам адпаведнай кандыдатуры на самую высокую службовую вакансію. Нагадаем, што ад яе адмовіліся ледзьве не ўсе дырэктары благанадзейных прадпрыемстваў Гродна.


Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Гродна абяцае стаць чарговым разносам...

Па нашых звестках, сёння ў ліку найбольш верагодных кандыдатаў значацца загадчык фінансавага аддзела гарвыканкама Аляксандр Антоненка і генеральны дырэктар прадпрыемства «Радыёхваля» Уладзімір Герасіменка. Калі выбар першага будзе азначаць, што «новай мятле» ў асобе Саўчанкі рэкамендавана ў кадравай палітыцы кіравацца меркаваннямі пераемнасці і прафесіяналізму, то прызначэнне старшынём звязанага з буйнымі крадзяжамі на «Радыёхвалі» Герасіменкі стане сігналам да таго, што прыярытэтам з'яўляецца асабістая адданасць і выканаўчасць, стымулюемая наяўнасцю ўбойнага кампрамату. Зрэшты, магчымы і трэці варыянт - прызначэнне галавой горада «варага». Пасля нядаўняга прэзідэнцкага прызначэння кіраўніком Нацыянальнай Акадэміі навук упраўленца Мясніковіча такі кадравы кульбіт не падаецца немагчымым. Падобны крок будзе азначаць імкненне да ўзмацнення ў рэгіёне пазіцыяў Уладзіміра Саўчанкі, што належыць да «варажскай» катэгорыі прызначэнцаў.

І ўсё-такі не столькі сам факт прызначэння галоўнага гарадзенскага «вертыкальшчыка» будзе больш за ўсё хваляваць выканаўчую наменклатуру вобласці, колькі рэакцыя прэзідэнта на адстаўку старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Анатоля Пашкевіча, што пяць гадоў аддана служыў «бацьку». Пасля гучнага арышту дубкоўскага прапэжа, былога старшыні Ашмянскага райвыканкама Віктара Пракопчыка, людская пагалоска ўзмоцнена мусіруе чуткі наконт хуткага арышту Анатоля Міхайлавіча, як чарговай ахвяры кадравай чысткі, наладжанай Уладзімірам Саўчанкам. У гэтай сітуацыі аднаго слова ўдзячнасці (дагэтуль не вымаўленага, дарэчы) на адрас Пашкевіча з боку Лукашэнкі будзе дастаткова, каб зразумець, што цяперашні дырэктар «Гроднахлебпрама» памілаваны. Тады праменьчык надзеі зазяе і на даляглядзе многіх упраўленцаў, якія губляюць сон з-за таго, што абавязаныя кар'ерай нябожчыку Аляксандру Іосіфавічу. Ці вымавіць Лукашэнка запаветнае слова? Заўтра даведаемся.

Заўтра ж стане вядома ступень крывадушша галавы дзяржавы, які пры кожным зручным выпадку дэкларуе бескампраміснасць у барацьбе з карупцыяй. Лакмусавай паперкай у гэтым сэнсе павінна стаць ягоная ацэнка апублікаваных у ПАГОНІ і шырока абмяркоўваемых апошнія два тыдні гарадзенцамі фактаў крадзяжоў на «Радыёхвалі». Калі Лукашэнка ўсур'ёз рыхтаваўся да візіту ў наш горад, то па-за яго ўвагай не павінны былі прайсці таксама апублікаваныя намі сведчанні наконт «выканання» санітарных нормаў на Гарадзенскім мясакамбінаце. Зрэшты, мяркуючы па семігадоваму досведу жыцця з цяперашнім галавой дзяржавы, такога кшталту «праверка на вашывасць» скончыцца, верагодней за ўсё, традыцыйным «няведаннем» Лукашэнкі пра рэальна існуючыя ў рэгіёне праблемы.

Таму ўтак званай «гаспадарчай» частцы візіту, наколькі вядома ПАГОНІ, у Аляксандра Лукашэнкі запланавана наведванне вытворчага аб'яднання «Азот». З высокай ступенню верагоднасці можна прадказаць, што там кіраўнік дзяржавы разам «інсінуацый» вакол планаў прыватызацыі прадпрыемства на карысць расейскіх нафтагазавых кампаніяў і заявіць пра неабходнасць дзяржаўнай падтрымкі хімічнага гіганта. Той факт, што ў дзяржавы ніякіх грошай не хопіць для аднаўлення зношаных асноўных фондаў прадпрыемства, будзе, як заўсёды, праігнараваны. Як і жаданне кіраўніцтва «Азота» дамагчыся выгадных умоваў у гандлі мінеральнымі ўгнаеннямі з калгасамі.

Увогуле, чакаецца што падчас заўтрашняга візіту Аляксандр Лукашэнка зробіць шмат «карысных» і «важных» для гарадзенцаў справаў. Тое, што гэтыя справы (традыцыйна) не супадуць з чаканнямі жыхароў рэгіёна, будзе вытлумачана ўдзячным электаратам як вынік утойвання ад прэзідэнта «ўсёй праўды» з боку яго недобрасумленнага атачэння.

А можа, мы памыляемся? Пераканаемся заўтра...

**Анджэй Пісальнік**

**P.S.: За дзве гадзіны да выхаду газеты ў свет нам стала вядома, што запланаваны на другое лістапада візіт Лукашэнкі ў Гродна можа не адбыцца. Аднак ні пацвердзіць, ні абвергнуць гэтую інфармацыю гарадзенскія чыноўнікі не здолелі.**



# Ахвяры палітычных рэпрэсіяў не забытыя

**Больш за 500 улётак, прысвечаных Дню памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, раздалі 30 кастрычніка сябры гарадзенскай арганізацыі Малады Фронт на вуліцы Савецкай і ў памяшканні Гандлёвага Дома «Нёман».**

Улётка была прысвечана гэтай даце, і ў ёй былі ўзгаданыя імёны славутых землякоў нашай Бацькаўшчыны, ахвяраў палітычных рэпрэсіяў: Тадэвуша Касцюшкі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вацлава Ластоўскага, Ларысы Геніюш ды іншых. Тых, на чыіх касцях і паўстала сучасная Беларуская дзяржава. «Гэта было, хто ж будзе наступным? Падумай!» - заклікалі маладафронтаўцы жыхароў горада.

- *Грамадства забылася пра 30 кастрычніка*, - **гаворыць Вадзім Саранчукоў, старшыня гарадзенскай арганізацыі Малады Фронт.** - *Людзі забыліся на рэпрэсаваных Каліноўскага і Ластоўскага, на вязняў сумлення Севярынца і Шчукіна ды іншых. Малады Фронт памятае і шануе гэтую дату.*

**Алесь Зарэмбюк**

# Дзень памяці продкаў адзначылі ў Курапатах

**28 кастрычніка Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя - БНФ правяла акцыю, прысвечаную Міжнароднаму дню памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў і Дню памяці продкаў «Дзяды».**

Удзельнікі акцыі, у якой узялі ўдзел прыкладна 1.500 чалавек, у 12.30 рушылі ад месца збору (сквер на бульвары Талбухіна, каля станцыі метро «Парк Чалюскінцаў») і прайшлі па праспекту Францішка Скарыны, вуліцах Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка, Мірашнічэнкі, далей - да кальцавой аўтадарогі і прыбылі ва ўрочышча Курапаты.

Удзельнікі шэсця неслі звон, бел-чырвона-белыя сцягі, выявы старажытнага беларускага герба «Пагоня» і лозунгі наступнага зместу: «Абаронім Курапаты», «Ушануем ахвяраў Курапат». У шэсці ўзялі ўдзел, акрамя актывістаў Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ, прадстаўнікі іншых партый, а таксама незарэгістраваных маладзёжных арганізацый «Малады фронт» і «Зубр». На аўтобусным прыпынку ў раёне Курапат з раніцы невядомыя вывесілі бел-чырвона-белы сцяг, які неўзабаве знялі супрацоўнікі міліцыі.

Ва ўрочышчы, на паляне перад Крыжом Пакутаў, з 15.00 да 17.00 гадзін адбыўся мемарыяльны мітынг. Яму папярэднічала набажэнства ў памяць бязвінна загінуўшых, якое правялі святар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Леанід Акаловіч і настаяцель рымска-каталіцкай абшчыны святога Яна Хрысціцеля ксёндз Ігар Лашук.

Выступаючы на мітынгу, сакратар Сойма Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ Валерый Буйвал заявіў, што людзі прыйшлі сёння сюды, каб супрацьстаяць спробам знішчэння Курапат - святога месца для беларусаў. Ён зачытаў ліст старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ Зянона Пазняка. У ім, у прыватнасці, адзначаецца: «Дзяды» для нас - пачатак свабоды, і з «Дзядоў», і з Курапат пачаўся 1988 год (год пачатку нацыянальнага адраджэння). І мы ніколі не забудзем сваіх продкаў, якія ляжаць тут». Як адзначыў Пазняк, у Курапатах ужо шмат было знішчана, калі пракладвалі газапровод і Менскую кальцавую аўтадарогу. Паводле яго слоў, у памяць пра 250 тысяч ахвяр Курапат неабходна пабудаваць тут мемарыял, паставіць тут сотні тысяч крыжоў.

Выконваючы абавязкі старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ Юрась Беленькі заявіў на мітынгу, што неабходна супрацьстаяць спробам улад пашырыць кальцавую аўтадарогу.

- *Мы павінны быць мацней за бульдозеры*, - сказаў ён. - *Калі ва ўладаў няма грошай, каб пабудаваць дарогу ў аб'езд Курапат, мы павінны сабраць грошы і пабудаваць народную дарогу ў аб'езд Курапатаў.*

Беленькі звярнуўся да прысутных на мітынгу з заклікам пачаць збор сродкаў, паколькі ўлады такіх грошай, як яны заяўляюць, не маюць.

Старшыня грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алег Трусаў сказаў, што для Беларусі пачатак стагоддзя заўсёды быў пераможным.

- *Я спадзяюся, што нас чакае перамога, калі мы зможам тут, у Курапатах, выстаяць*, - сказаў Трусаў. *Удзельнікі мітынгу ў Курапатах запатрабавалі ад улад правесці Менскую кальцавую аўтамабільную дарогу ў абыход урочышча.*

**Марат Гаравы**


Фота IREX/ProMedia

Вязень сталінскіх лагероў Надзея Дзямідовіч сярод удзельнікаў Дня памяці

# Пратакол за то, не ведаю, за што

**У аўторак у Гродне скончыўся амаль двухмесячны судовы працэс над двума актывістамі перадвыбарнага штаба Уладзіміра Ганчарыка - даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты - Мячыславам Гіруцем і сябрам Гарадзенскага абласнога штаба Тадэвушам Гавінам.**

Нягледзячы на супярэчлівыя паказанні, суддзя Гарадзенскага раённага суда Ігар Сідорчык прызнаў іх вінаватымі ў «парушэнні ўстаноўленага парадку правядзення мітынгаў і сходаў» і пакараў папярэджаннем.

Нагадаем, што пратакол адміністрацыйнага правапарушэння быў складзены на празначаных сябраў штаба Ганчарыка 7-га верасня бягучага года падчас правядзення сустрэчы з выбаршчыкамі ў Сапоцкіне Гарадзенскага раёна. Сустрэча адбылася пасля агульнашкольнага бацькоўскага сходу і была ўзгоднена з дырэктаркай школы.

Участковы міліцыянт Андрэй Занеўскі, які склаў пратакол аб правапарушэнні, у суддзе так і не здолеў дакладна сказаць, у чым віна Гіруця і Гавіна. З яголых словаў, актывісты штаба вінаватыя ў тым, што выступілі не ў Доме культуры, дзе быў дазвол, а ў школе. Хаця, як давёў у судзе абаронца Гіруця адвакат Алег Куц, выбарчае беларускае заканадаўства дазваляе праводзіць перадвыбарныя сустрэчы ў любым зручным для выбаршчыкаў месцы.

Рашэнне суддзі вынесці Мячыславу Гіруцю і Тадэвушу Гавіну папярэджанне, у інтэрв'ю ПАГОНІ Алег Куц назваў «незаконным»:

*- Відавочна, працэс павінен быў быць спынены. У дзеяннях маіх кліентаў няма складу правапарушэння. Яны не парушылі ніводнай канстытуцыйнай нормы. Пратакол быў проста выдуманы.*

Падставы лічыць пратакол выдуманым даў сам участковы міліцыянт. На пытанне «Хто прыняў рашэнне аб складанні пратакола?» той адказаў: «Была каманда...».

Тлумачыць, хто аддаў каманду, міліцыянт не стаў, пасля чаго наогул адмовіўся даваць сведчанні. Што было расцэнена адвакатам Мячыслава Гіруця як «беспрэцэдэнтная з'ява».

Нагадаем, што Гродна застаўся фактычна апошнім горадам ў Беларусі, дзе яшчэ ідуць судовыя працэсы па перадвыбарнай кампаніі.

**Павал Мажэйка**




А, ты, Рыгораўна, хіба не чула, што наступны аўтобус будзе гадоў праз пяць?..

# Мільён ёсць, але не для ўсіх

**Тое, што сёння адбываецца ў 4-й «азотаўскай» клінічнай бальніцы Гродна, здаецца неверагодным на тле гаротнага стану аховы здароўя ў Беларусі. Ударнымі тэмпамі ў шпіталі ідзе рэканструкцыя гінекалагічнага аддзялення з будучым пераўтварэннем яго ў абласны эндаскапічны цэнтр.**

Звесткі пра тое, што на гэтыя работы пойдзе мільён даляраў, аказаліся праўдай. Уласна на рэканструкцыю выдаткавана 150 мільёнаў рублёў з абласнога бюджэту. Адмысловым рашэннем аблвыканкама 200 мільёнаў рублёў ахвяраваў «Азот», па 150 мільёнаў рублёў пагадзіліся даць «Гроднааблгаз» і «Гроднаэнерга». Каля 350 мільёнаў будзе каштаваць абсталяванне, якое набываецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Справа гэтая, бясспрэчна, добрая. Два апошнія гады, у гінекалагічнай хірургіі стаў шырэй ужывацца метад лапараскапіі, гэта значыць аперацыі без апераравання чэраўнай параніны. Гэткія аперацыі значна менш траўматычныя і больш стэрыльныя. Як сведчыць абласное Упраўленне здароўя, за ўвесь 2000 год такіх аперацыяў зрабілі толькі 15 працэнтаў ад агульнай колькасці. А толькі за дзевяць месяцаў бягучага года іх колькасць вырасла да 31 працэнта. З адкрыццём эндаскапічнага цэнтра аб'ём аперацыяў падобнага кшталту значна павялічыцца. А гэта ў сваю чаргу, паводле словаў галоўнага гінеколага вобласці Віктара Лісковіча, ёсць шлях да змяншэння рэпрадуктыўных стратаў. Сёння, адзначыў ён, удзельная вага бясплодных жанчын пакуль застаецца значнай.

На пытанне - чаму абрана менавіта 4-я клінічная бальніца - Віктар Лісковіч патлумачыў, што Гарадзенскі радзільны дом хутка зачыняецца на капітальны рамонт. Парадзіх часова будзе прымаць Гарадзенскі шпіталь хуткай дапамогі.

Работы па рэканструкцыі вядуцца досыць актыўна. У абласным аддзеле аховы здароўя разлічваюць закончыць рэканструкцыю да канца снежня. Як толькі будзе завезена абсталяванне, адразу пачнецца прыём пацыентак. Чатыры гарадзенскія дактары прайшлі стажыроўку на базе 8-й клінічнай бальніцы Менска ў аддзяленні эндаскапічных метадаў, загадвае якім Андрэй Праўдзін, роданачальнік лапараскапіі ў Беларусі. Уласна кажучы, яму і належыць ініцыятыва стварэння такіх цэнтраў ва ўсіх рэгіёнах краіны. І ён, як бачым, дастаткова ўдала пралабіраваў яе падчас наведвання клінікі Аляксандрам Лукашэнкам.

Даручэнне Аляксандра Лукашэнкі аб стварэнні цэнтра павінна быць выканана. Таму нягледзячы на тое, што «бюджэт вобласці трашчыць па швах» (выказванне Уладзіміра Саўчанкі), грошы на рэканструкцыю знаходзяцца. Іншыя аддзяленні 4-й клінічнай бальніцы Гродна назіраюць за працай з чорнай зайздрасцю. У іх наўрад ці штонебудзь зменіцца.

**Ніна Палуцкая**

# Пешшу ў Масты

**У Мастах спынены рух усіх гарадскіх і прыгарадных маршрутаў аўтобусаў. Транспарт прастойвае ўжо пяць дзён.**

*- Аўтобусы бліжэйшым часам ездзіць не будуць*, - заявіў карэспандэнту ПАГОНІ Сямён Заноза, дырэктар Мастоўскага аўтапарка N9.

Паводле словаў Сямёна Занозы, у бюджэце Мастоўскага райвыканкама, які з'яўляецца замоўцам паслуг на перавозку пасажыраў, няма сродкаў. Райвыканкам вінаваты гарадскому аўтапарку 17 мільёнаў рублёў. А нафтабаза адмаўляецца даваць аўтапарку бензін і салярку задарма.

Асабліва церпяць ад наступстваў «сацыяльна арыентаванай эканомікі» бабулькі з сумежных вёсак. Яны вымушаныя хадзіць у райцэнтр (у асноўным у шпіталь ды аптэкі) пешшу.

**Алесь Зарэмбюк**

# Ліпавыя «франкліны»

**Буйную партыю фальшывых банкнотаў выявілі супрацоўнікі АБЭЗ Гарадзенскага раёна ў грамадзяніна Польшчы ў той час, як апошні спрабаваў набыць за падробленыя 100 даляраў тавар у краме «Duty Free» на КПП Брузгі.**

Пры асабістым даглядзе ў затрыманага было знойдзена 16 стодаляравых купюраў, выробленых, як паказала папярэдняя праверка, спосабам каляровага ксеракапіравання. Канчаткова пра метад вырабу фальшывак і крыніцу іх паходжання можна будзе казаць пасля заключэння экспертаў і правядзення следчых дзеянняў.

Месяцам раней АБЭЗ Ленінскага раёна г.Гродна канфіскаваў у групы менчукоў партыю фальшывых стодаляравых купюраў. Пасля праверкі было ўстаноўлена, што банкноты вырабляліся спосабам афсетнага друку і на першы погляд нічым не адрозніваліся ад сапраўдных.

**ПАТ**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# У сінагозе будзе рынг

**Будынак былой сінагогі размешчаны па вуліцы Сацыялістычнай,35 (гл.ПАГОНЮ N43 ад 25 кастрычніка), будзе выкарыстоўвацца як трэніровачная зала для заняткаў боксам. Пра гэта паведаміла карэспандэнту ПАГОНІ намесніца начальніка ўпраўлення фізкультуры, спорту і турызму Лідзія Шуцікава.**

Адпаведна сцвярджэнню Лідзіі Сцяпанаўны, упраўленне зробіць усё магчымае, каб артыкул выдаткаў па рамонту будынка, што не выкарыстоўваўся на працягу 17 гадоў, быў закладзены ўжо ў бюджэт наступнага года.

*- Як толькі мы атрымаем рашэнне суда, нашыя юрысты адразу ж зоймуцца падрыхтоўкай схемы кампенсацыі Новаапостальскай царкве затратаў, панесеных у выніку здзелкі, прызнанай судом незаконнай*, - **заявіла Лідзія Шуцікава.**

На пытанне карэспандэнта ПАГОНІ адносна таго, хто кампенсуе пратэстантам страту камісійных, уплочаных за рыэлтарскія паслугі фірме «2 К і К», Лідзія Сцяпанаўна адказаць не змагла.

Нагадаем, што паводле меркавання прадстаўніка «2К і К», камісійныя па дадзенай здзелцы вяртанню не падлягаюць, бо фірма не прызнае рашэння суда. Такім чынам, працяг цяжбы па будынку былой сінагогі залежыць ад прынцыповай пазіцыі Новаапостальскай царквы, якая альбо пагодзіцца са стратай камісійных, альбо абскардзіць скасаванне здзелкі ў Вышэйшы Гаспадарчы суд, пра што стане канчаткова вядома на гэтым тыдні.

Цікава, што ў выпадку другога варыянту прафсаюзы, што ініцыявалі спасыск, будуць вымушаныя траціць сродкі на камандзіроўку ў Менск. І гэта пры тым, што Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская на аспрэчваемы будынак ужо даўно не прэтэндуе і не збіраецца прэтэндаваць.

*- Мы, падаючы спасыск у суд, хацелі толькі пераканацца ў законнасці заключэння здзелкі*, - патлумачыў ПАГОНІ пазіцыю прафсаюзаў намеснік старшыні прафсаюзаў абласнога аб'яднання ФПБ **Анатоль Сарока.**

Тое, што фактычна спасыск атрымаўся ў інтарэсах аблвыканкама, прафсаюзнага дзеяча не збянтэжыла. Анатоль Сарока прызнаў, праўда, што прыняцце рашэння наконт падачы спасыскoвай заявы наспела ў прафсаюзах пасля таго, як начальнікам упраўлення спорту і турызму аблвыканкама Віктарам Шніпко «было аб'ектыўна зададзена пытанне адносна законнасці здзелкі». «Але гэта нельга назваць ціскам. Рашэнне мы прымалі самастойна», - заявіў Анатоль Сарока.

Як стала вядома ПАГОНІ, «самастойнасць» у прыняцці прафсаюзамі патрэбнага аблвыканкаму рашэння, якое абумовіла затраты з прафсаюзнай касы, садзейнічала адпаведная «просьба», што паступіла на адрас старшыні абласнога аб'яднання ФПБ Ірэны Шылконь, ад старшыні аблвыканкама Уладзіміра Саўчанкі.

Падсумуем. Ва ўсёй сітуацыі вакол спартзалы ў былой сінагозе рызыкуюць страціць цалкам канкрэтныя сумы грошай (у залежнасці ад зыходу справы) Новаапостальская царква, прафсаюзы і фірма «2К і К». Нічым не рызыкуючы, набыць нерухому маёмасць у цэнтры горада можа Гарадзенскі аблвыканкам. Як нам абяцаюць - у інтарэсах баксёраў. Хаця злыя (але кампетэнтныя) языкі сцвярджаюць, што ідзе звычайны (пры новай абласной уладзе, што скарысталася часовай «абезгалоўленасцю» гарвыканкама) перадзел уласнасці.

**Анджэй Пісальнік**

# Кіраўнік Канстытуцыйнага Суда Васілевіч наведаў гарадзенскую канферэнцыю

**26-27 кастрычніка на юрыдычным факультэце Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта адбылася міжнародна навуковая канферэнцыя на тэму «Праблемы інтэграцыі і прававой сістэмы Рэспублікі Беларусь у еўрапейскую і сусветную прававую прастору». Удзел у ёй узяў кіраўнік Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Рыгор Васілевіч.**

У сваім выступе падчас адкрыцця канферэнцыі **Рыгор Васілевіч** адзначыў:

*- Канстытуцыя нашай краіны ў галіне права - не самы дрэнны тэкст. Аднак неабходна, каб гэтыя дэкляраваныя нормы дзейнічалі... Бо жыццё ставіць усё новыя і новыя пытанні.*

Перад прысутнымі навучэнцамі ды выкладчыкамі выступіў таксама прафесар БДУ Анатоль Галаўко, які засяродзіў увагу слухачоў на законнасці ды поглядзе нацыянальнай дзяржавы на запазычанні нормаў міжнароднага права. Апошнім выступіў загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права ГрДзУ кіраўнік аргкамітэта канферэнцыі Мікалай Сільчанка. Ён спыніўся на тэарэтычных праблемах інтэграцыі прававых сістэмаў.

Пасля заканчэння ўрачыстай часткі, распачалі работу сем секцыяў. Усяго за два дні падчас іх былі заслуханыя даклады каля 80 лектараў.

**Захар Штрэна**



Загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Полацкага Дзяржаўнага універсітэта Алесь Пугачоў агучыў на канферэнцыі даклад «Праблема самавыканальнасці міжнароднага права ў Рэспубліцы Беларусь

# Шпацыр па беларускай Гародні

**Не так даўно на старонках «БІ» з'явілася серыя артыкулаў, прысвечаная гісторыі гарадзенскіх вуліцаў, вельмі паважанага мною Ігара Трусава. Яны адразу прывабілі да сябе цікавасць чытачоў, прымушаючы зварочвацца зноў і зноў да тых каштоўных ведаў, якімі шчыра падзяліўся з намі аўтар. Адно толькі не давала спакою. Прайшоў я па цэнтральных гарадзенскіх вуліцах у літаральным сэнсе ад А да Я, і адчуў, што наша Гародня, так бы мовіць, не зусім беларуская. Няма беларусаў сярод мясцовых жыхароў, як ты не шукай. Гэта пасля 44-га нашыя бацькі прыедуць сюды з вёскі, каб вучыцца ў інстытуце, працаваць на фабрыках, адбудоўваць, а часам і нішчыць тое, што было не да канца разбурана падчас вайны. Прыедуць і займуць месца сярод гэтых старых палацаў і храмаў сапраўдных гаспадароў, якіх вынішчыў ліхаманкавы час у пекле Асвенцыма, лясах Катыні і Казахскіх стэпах. І што б пасля ні пісалі гісторыкі пра беларускіх князёў Усевалада, Давіда, Вітаўта, Стэфана Баторыя (чытай Сцяпана Батуру), адчуванне няўпэўненасці ў сваім праве на гістарычную спадчыну застаецца. Адсюль і «тлум дзяцей», і «жлобская нацыя» - як прысуд самім сабе. Добра, што хоць ёсць у Гародні яшчэ Кастусь Каліноўскі ды Максім Багдановіч. Аднак і яны не пераконваюць. Гэтак і Ніжні Ноўгарад можна лічыць беларускім.**

**Калі не памыляюся, у Ігара Трусава знайшлося месца яшчэ для двух гарадзенскіх беларусаў - дэпутата Польскага Сейма Сымона Якавюка (і то пад іншым прозвішчам) ды безыменнага «капітана-кулямётчыка», які быў прыкамандзіраваны Літоўскай Тарыбай у лютым 1919 года навучаць беларускі батальён мастацтву стральбы з кулямёта «Schwarzlose». І ўсё. І справа не ў прадузятасці, а, калі можна так сказаць, у дыяпазоне навуковага інтарэсу: не трапляе беларус у радыус гістарычнага пошуку, таму што «абсталяванне» гісторыка настроена ў першую чаргу на асобу. Таму і не бачым мы нашых продкаў у натоўпе на гарадскім кірмашы, сярод дойлідаў, што ўзводзяць сцены касцёла ці царквы, або ў шынку, бо шукаем герояў, хай сабе гэта фальшываманетчык Мардух Індурскі ці авантурыст граф Валіцкі.**

**Вось з гэткай мэтай: адшукаць беларускія адрасы ў гісторыі нашай Гародні, а дакладней - мясціны, звязаныя з беларускім нацыянальным рухам, і вырашылі мы адправіцца ў шпацыр па нашаму гораду. Аднак, адразу ж узнікла пытанне: адкуль пачаць нашу вандроўку, што выбраць у якасці ўмоўнага пункту адліку і, тым самым, адначасова надаць галоўны напрамак для падарожжа? Звычайны маршрут ад Каложы да Старога замка быў не вельмі зручным: паспрабуй адшукай тых беларусаў сярод «балта-славянскага субстрату» ды аддзялі «сапраўдных літоўцаў» ад літоўцаў сучасных.**

**Але пакуль збіраліся матэрыялы, у часопісе «ARCHE» з'явіліся ўспаміны Б.Грабінскага, і пытанне - адкуль пачаць шпацыр па беларускай Гародні - адпала само сабою: з гарадзенскага Фартштату, з левага, найбольш абдзеленага цікавасцю гісторыкаў берага Нёмана, і рухацца ў бок Вільні. Чаму Вільні? Бо менавіта Вільня была цэнтрам прыцягнення дзеячаў беларускага нацыянальнага руху ў Гародні, і кожны мясцовы свядомы беларус рана ці позна трапляў у Вільню...**



Кляштар францішканаў у Гародні. Здымак 20-х гадоў XX ст.

## Францішканскі касцёл: Я.Ляўковіч, А.Зянюк, Б.Грабінскі

Пабудаваўшы ў сярэдзіне XVII стагоддзя касцёл і кляштар на левым беразе Нёмана, на пачатак XX стагоддзя манахі-францішкане даўно ўжо пакінулі тыя касцельныя муры і па загаду з Вільні сюды прысылалі ксяндзоў за непрыстойныя паводзіны на пакуты. Хлопцы-беларусы з Сакольшчыны, якія вучыліся ў гарадзенскай гімназіі, апынуліся ў кляштары дзякуючы пробашчу мясцовай парафіі літоўцу ксяндзу Баярунцу. На супрацьлеглым беразе здымаць пакой каштавала вялікіх грошай, і Янка Ляўковіч па мянушцы Капельдудка, а са жніўня 1912 года Адольф Зянюк, які змяніў яго, падзараблялі рэпетытарствам з пляменнікамі пана пробашча, за што мелі сталаванне і келлю. Баляслаў Грабінскі трапіў да францішканаў дзякуючы сваяцтву з Ляўковічам (бацька Ляўковіча быў жанаты з сястраніцаю ягонага дзеда).

- Фартштат, - узгадваў пазней Б.Грабінскі, - розніўся ад горада, быў падобны да малых мясцечкаў на Беларусі. Тады як у Гародні каталіцкая інтэлігенцыя гаварыла па-польску, праваслаўная - па-расейску, жыды - на ламанай расейскай мове, Фартштат гаварыў па-беларуску. Было там пару жыдоўскіх хатаў, дзе размаўлялі па-жыдоўску і па-беларуску. Мы... сталаваліся ў адной хаце праз вуліцу ад кляштара. Наша гаспадыня не ведала ані польскае, ані расейскае мовы, гаварыла толькі па-беларуску.

Хлопцы жылі ў адной з цэляў кляштара, якая, пэўна, захавалася і да нашага часу: зараз гэта стары корпус другога гарадскога шпіталя. У трох яны належалі да гуртка беларускай моладзі, які дзейнічаў паўлегальна ў Гародні з 1909-га па 1914 гады. **Янка Ляўковіч** быў загадчыкам хору пры гуртку, а ў пастаноўцы «Моднага шляхцюка» ў лютым 1911 года граў свата. **Адольф Зянюк** таксама ўдзельнічаў у спектаклях гуртка (між іншым, выконваў абавязкі суфлёра), пісаў апавяданні, уваходзіў у склад рэдкалегіі гурктоўскага часопіса «Колас беларускай нівы», для якога перапісваў матэрыялы. З восені 1913 года А.Зянюк быў апошнім кіраўніком беларускага гуртка. Падчас вучобы на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта ён уваходзіў у склад гуртка студэнтаў-беларусаў. Выступаў з рэфератамі на вечарынах у Б.Эпімах-Шыпілы, дзе 16 снежня 1914 года прачытаў рэферат «Стасунак беларусаў да іх суседзяў». У 1916 годзе быў мабілізаваны ў войска, скончыў у Кіеве ваенную вучэльню. Пазней, у 1920-я гады вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага універсітэта, аднак і тады не пакідаў цікавіцца беларускай справай: быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза, а з 1925 года рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка». Працаваў суддзём на Палессі, у Вільні, дзе і памёр у 1938 годзе.

**Баляслаў Грабінскі** ў 1911-1914 гадах вучыўся ў гарадзенскай расейскай гімназіі (з 1912 года - імя графа Тормасава), каб у 1918 годзе працягваць вучобу ўжо ў гарадзенскай польскай гімназіі (пазней імя А.Міцкевіча). Падчас свайго сяброўства ў гарадзенскім гуртку беларускай моладзі ён нічым асабліва не вызначыўся. Аднак менавіта з таго часу, калі разам з Янкам Ляўковічам яны жылі ў Францішканскім касцёле, і пачалося ягонае нацыянальнае ўсведамленне. Фартштацкае жыццё дало свой плён. Аддаўшы больш як дваццаць год Вільні (зноў Вільня), дзе спачатку вучыўся ва універсітэце, а пазней працаваў асістэнтам кафедры анатоміі медычнага факультэта і трымаў уласную практыку як доктар-дантыст, ён адначасова з'яўляўся старшыня БХД, БНК у Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. Баляслаў Грабінскі аказваў матэрыяльную дапамогу шэрагу беларускіх арганізацыяў і ўстановаў, у тым ліку Беларускаму музею імя І.Луцкевіча. Нельга сказаць, што ягоны жыццёвы шлях быў гэткім простым: прыкладна з сярэдзіны 1940 года Б.Грабінскі вымушаны быў выконваць паслугі паведамляльніка НКУС. У верасні ж 1943 года быў арыштаваны літоўцамі ды інтэрнаваны ў лагер Правянішкі, але беларускай дзейнасці ён ніколі не прыпыняў. Са жніўня 1942 года да канца нямецкай акупацыі Баляслаў Грабінскі - старшыня Віленскага БНК, а пасля 1944 года, ужо на эміграцыі, - сябра Рады БНР, Беларускага інстытута навукі і мастацтва, Беларуска-амерыканскага згуртавання. На жаль, для большасці сучасных гарадзенскіх беларусаў ягонае імя амаль невядома.

## Погляд на «беларускае пытанне» з маста імя Пілсудскага

«Як ужо было ўзгадана, - чытаем мы далей Баляслава Грабінскага, - я жыў на Фартштаце і хадзіў у школу праз мост на Нёмане... Зімою, як Нёман замярзаў, ішлі мы праз раку па лёдзе, бо было бліжэй». Потым ён кажа пра дзівака, які з надыходам халадоў кожную раніцу прыходзіў у купальным касцюме і футры да палонкі на лёдзе, здымаў футра, ускокваў у ваду на пару хвілінаў, вылазіў, надзяваў футра ды ішоў у горад. Гэты безыменны гарадзенец у купальным касцюме пад футрам (хто ведае, мо гэта быў вядомы асілак Якаў Чахаўскі), які ідзе па замерзлым Нёмане да палонкі, застаўся ў памяці 13-гадовага юнака назаўсёды. Так і ўяўляецца: хлопцы на лёдзе, хутаючыся ў башлыкі, дзівяцца на мясцовага маржа, а аднекуль зверху, з маста чуецца вясёлы рогат жыдоў-карабейнікаў, фурманшчыкаў з рабочымі, ды паслушніца з жаночага манастыра сарамліва адводзіць вочы, хутка прабягаючы праз натоўп.

Свядомы беларус, апыніся ён сярод людзей на масту, здаваўся б ім гэткім жа маржом: дзіваком, які лезе супраць звычаю і часу. Аднак у пачатку XX стагоддзя беларусы хадзілі і па брукаванцы гарадзенскіх вуліцаў, і па гэтаму масту. Якраз перад I сусветнай вайной у Гародні вучыўся **Уладзімір Тамашчык**, які ў 1930-х гадах выконваў абавязкі сакратара старшыні Рады БНР В.Захаркі. Падчас другой сусветнай вайны Уладзімір Тамашчык працаваў намеснікам рэдактара беластоцкай беларускай газеты «Новая дарога» і ў якасці прадстаўніка Беластоцкага БНК ізноў, магчыма, прыязджаў у Гародню ў сакавіку 1942 года па пытанню аб адкрыцці мясцовага прадстаўніцтва камітэта. У 1949 годзе Уладзімір Тамашчык пастрыгся ў манахі, прыняўшы імя Васіль, а яшчэ праз два гады ён быў абраны адміністратарам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы ў ЗША, Канадзе і Еўропе. Акрамя гэтага, ён некаторы час узначальваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва у ЗША.

У Гародні нарадзіўся **Уладзімір Пігулеўскі**, удзельнік Пражскай канферэнцыі ў верасні 1921 года, консул БНР у Латвіі. У міжваенны час У.Пігулеўскі працаваў у беларускіх гімназіях у Дзвінску і Люцыне, кіраваў Беларускім аддзелам пры Міністэрстве асветы Латвіі і неаднаразова пераследаваўся латвійскімі ўладамі за беларускую дзейнасць.

У 1907-1909 гадах у 102 пяхотным Вяцкім палку ў Гародні служыў **Дамінік Аніська**, карэспандэнт і супрацоўнік беларускіх каталіцкіх выданняў першай паловы XX стагоддзя: «Беларус», «Хрысціянская думка», «Крыніца». Цікава, што і для яго наш горад атаясамляўся з пачаткам уласнага нацыянальнага ўсведамлення. «Аднаго разу, як быў я ў Гародні, - чытаем мы ў ягонай аўтабіяграфіі, - праходзячы па Саборнай вуліцы, пабачыў у акне польскай кнігарні «Беларускую Дудку» (пра Францішка Багушэвіча гаворка наперадзе - **А.Ч.**). Зразумела, што адразу яе купіў. І гэта была першая кніжка - беларуская! Прамова да гэтай кніжкі вельмі мяне ўзрушыла і ўгрунтавала ў перакананні, што я беларус».

Улетку 1912 года **Макар Краўцоў**, будучы ў Гародні, піша апавяданне «Час самагубства», якое пабачыла свет толькі праз пяць год на старонках менскай газеты «Вольная Беларусь». Ужо падчас I сусветнай вайны ў 1915 годзе Гародню наведала **Цётка**. Хутка пачаліся зацятыя баі за горад з немцамі, і гарадзенскія масты, у тым ліку і гэты, былі ўзарваныя. Трапіўшы зноў у Гародню толькі напрыканцы 1918 года, Макар Краўцоў быў настолькі ўзрушаны пабачаным, што напісаў: «Хрыбты мастоў пераламаных, ахвяры скончанай вайны...».

Адразу пасля польска-савецкай вайны на месцы разбуранага быў пабудаваны часовы драўляны мост. Але спатрэбілася яшчэ дзесяць год, каб яго замяніць. Гэтыя дзесяць гадоў у складзе адроджанай Польскай дзяржавы для беларускага нацыянальнага руху ў Гародні сталі часам найбольшага ўздыму! З іншага боку, за гэты час польскімі ўладамі было знішчана больш за дзесятак беларускіх арганізацыяў, прайшоў шэраг судовых працэсаў над мясцовымі беларускімі дзеячамі, пакінула існаваць беларуская школа. Напрыканцы 1930 года ў горадзе заставалася толькі дзве беларускія ўстановы - кнігарня і рэдакцыя праўрадавай газеты «Беларуская думка». Але і яны праз год былі зачыненыя. 27 лістапада 1930 года на адкрыцці аднаўленнага маста, які атрымаў назву ў гонар кіраўніка дзяржавы Ю.Пілсудскага, са святочнай прамовай выступіў ад імя беларусаў **Аляксандр Аршун**. Між іншым, ён сказаў, што «беларускае насельніцтва абсалютна не рэагуе на лозунгі...» і што ў ягонай свядомасці «адбыўся гістарычны пералом у адносінах да Польшчы, прычына якога тоіцца ў перакананні, што Ю.Пілсудскі дасць беларусам усё патрэбнае, бо ён сам родам з гэтых краёў».

Наступныя, амаль дзесяць год, прайшлі для беларускай Гародні, як у летаргічным сне. «...Партызанка, ТБШ і БСРГ, - чытаем у справаздачы польскай паліцыі, - на тутэйшым абшары не існуюць, а былыя прыхільнікі і дзеячы ніякай актыўнасці не праяўляюць, бо праз некалькі гадоў некаторыя пастарэлі і з прычыны сямейных і матэрыяльных праблемаў пакінулі палітычную дзейнасць...». З 1933 года паведамленні аб арганізаваным беларускім жыцці наогул знікаюць са старонак паліцэйскіх рапартаў! Паступова палітыка асіміляцыі пераносіцца з палітычнай на культурную і эканамічную глебу. У аналітычнай нататцы, прысвечанай пашырэнню польскага валадарання на ўсходніх крэсах, Беластоцкі ваявода ў студзені 1939 года выказаўся за выцясненне «збяднелага беларускага элемента з вёскі ў горад», дзе ён бы хутчэй паддаваўся паланізацыі. Аднак у паветры ўжо адчуваўся подых новай вайны. Пра настроі, якія панавалі сярод мясцовага насельніцтва, добра сведчыць выпадак у Лашанскай гміне. Праязджаючы ля саду паляка-асадніка, беларусы-сяляне набралі яблыкаў, а калі гаспадар паспрабаваў іх прагнаць, то ў адказ пачуў: «Мы вас, шляхціцаў, выпендзімы і выржэзнемы!»

У нейкім сэнсе, новая эпоха ў гарадзенскім беларускім руху таксама пачалася з гэтага месца, калі 20 верасня 1939 года на мост імя Ю.Пілсудскага з боку Фартштата ўз'ехалі першыя савецкія танкі.

**Андрэй Чарнякевіч,**
**кандыдат гістарычных навук**



Гурток беларускай моладзі. Стаяць (злева направа): Язэп Раманьскі, Адольф Зянюк, Янік. Сядзяць: Людвіка Сівіцкая, Юзя Грынкевічанка, Марыся Бобрык

## Навучэнцы пабілі АМАП

Каманда сельскагаспадарчай акадэміі стала чэмпіёнам горада Гродна па футболе, які завяршыўся на мінулым тыдні.

Паказальна, што ў фінале навучэнцы пабілі моцную каманду гарадзенскага АМАПа «Дынама».

«Водаканал», за які выступалі выхаванцы футбольнай Дзіцяча-юнацкай спартовай школы N6, стаў трэцім. Чацвёртымі фінішавалі прадстаўнікі «Хімвалакна».

ІНТЭРПОСПЕХ

## Гарадзенец - чэмпіён Нямеччыны

**У чарговы раз гучнай перамогай узгадаў пра сябе гарадзенскі майстар УШУ Дзмітрый Мялешка.**

Бліскучую перамогу ўзяў Дзмітрый на адкрытым першынстве Германіі па УШУ ў вагавай катэгорыі да 70 кілаграмаў. На працягу ўсяго чэмпіянату наш ушуіст дэманстраваў выдатнае майстэрства, і вярнуўся дахаты чэмпіёнам Нямеччыны.

Нагадаем, што паўгода таму наш зямляк быў чацвёртым на італійскім Кубку Свету.

ШАХМАТЫ

## Пасля шаха ў дамкі

**З 22-га па 25-е кастрычніка ў шашачна-шахматным клубе прайшло гарадзенскае спаборніцтва па шашках і шахматах сярод камандаў прафесійна-тэхнічных вучэльняў. Кожная каманда складалася з трох гросмайстраў - адной дзяўчыны і двух хлапчукоў.**

Па выніках трох дзён перамогу ў камандным заліку святкавалі вучні электратэхнічнага каледжа імя Івана Шчаснага, услед за імі фінішавалі прадстаўнікі 41-й вучэльні. Замкнуў прызавую тройку гарадзенскі педагагічны каледж.

ВАЛЕЙБОЛ

## «Камунальнік» у лідарах

**У лідары нацыянальнага Чэмпіянату выйшлі валейбалісты гарадзенскага «Камунальніка» пасля сустрэчаў 8-га туру.**

Асноўныя канкурэнты «Камунальніка» - гомельскі «ГВК» і берасцейскі «Заходні Буг» - сустракаліся між сабою і падзялілі ачкі. А «Камунальнік» двойчы з лікам 3:0 перамог «Оршу-БКУУ».

У гарадзенскіх валейбалістак справы ідуць пакуль зусім кепска. У чарговых сустрэчах Чэмпіянату Беларусі «нёманкі» саступілі «МДзЭІ» - 2:3, 0:3. Пасля шасці тураў з нулём у графе перамог займаюць першы з канца радок у табліцы розыгрышу.

## Траско вяртаецца


Таццяна Траско

**Пасля паўтарагадовага перапынку, звязанага з народзінамі дзіцяці, пачала трэніравацца вядомая гарадзенская баскетбалістка Таццяна Траско. Таццяна дала згоду абараняць гонар свайго роднага клуба «Алімпія» ў гэтым чэмпіянаце. Плануецца, што ўжо ў гульнях другога туру чэмпіянату 10 і 11 снежня (першы «Алімпія» прапускае) гарадзенка выйдзе на гульню.**

## Першая перамога ў дэбютным чэмпіянаце

**Чэмпіянат Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лігі «Гродна-93» - «Аліта» - 72:67**

**«Гродна-93»: Кучынскі (14 ачкоў), Квашчук (13), Васілеўка (12), Шарко (10), Пынцікаў (9), Венскунас (7), Коршук (3), Місючэнка (2).**

**Чэмпіянат Беларусі. 1-ы тур. «Гродна-93» - «Арант-Акадэмія» (Менская вобласць) - 116:33, 96:49.**

За гэты тыдзень адбыўся шэраг знамянальных падзеяў, звязаных з баскетбольным Чэмпіянатам краіны «Гродна-93».

Па-першае, «93-я» атрымалі доўгачаканую першую перамогу ў дэбютным чэмпіянаце ПЕБЛ. Дасталася яна ім у дуэлі з яшчэ адным аўтсайдэрам групы «В» - літоўскай «Алітай». Зараз яны і займаюць два апошнія месцы сярод дзевяці камандаў, маючы па адной перамозе пры трох паразах.

Па-другое, зрушылася з мёртвага пункту пытанне аднасна набыцця гарадзенскім абласным выканкамам сучаснага баскетбольнага паркету. Ён дазволіць нашаму чэмпіёну праводзіць хатнія гульні ў Лядовым палацы пры сваіх гледачах, а не вандраваць паміж Гродна і Літвою, што аднімае вялікія грошы і шмат высілкаў. Аднак, пакуль невядома, калі паркет будзе ў нашым горадзе. Адпаведна нашым крыніцам, пакуль толькі прыкладна 80 працэнтаў неабходнай сумы пералічыў выканкам за памост. Калі будзе аплочана астатняя частка, адказаць ніхто не можа. Будзем спадзявацца, што да апошняй хатняй гульні гарадзенцаў з польскай «Палоніяй», які адбудзецца 17-18 снежня, гэтае пытанне будзе вырашана станоўча.

І трэцяе: у мінулую пятніцу распачаўся чарговы Чэмпіянат Беларусі ў Вышэйшай і першай Лізе.

«93-я» двойчы перамаглі «Оранж», а «Гродна-2» у першай Лізе спачатку атрымаў перамогу над «БДУ» - 80:60, потым прайграў БК «Менск» - 89:76.

## «Нёман» спыняе бесперамowжную серыю

**Сустрэчай у падмаскоўным Адзінцове з мясцовым «МГУ» хакеісты гарадзенскага «Нёмана» спынілі бесперамoжную кастрычніцкую серыю ў Чэмпіянаце Усходне-Еўрапейскай Хакейнай Лігі. Тры ачкі, заваяваныя нашымі хакеістамі ў дзвюх сустрэчах, дазволілі ім узняцца з падвала турнірнай табліцы на перадапошняе месца, ніжэй застаўся толькі наваполацкі «Палімір».**

27 кастрычніка дружына Анатоля Варывончыка была майнейшая - 4:3 (аўтары галоў у складзе «Нёмана» - Дзееў (1:0), Лантратаў (2:1), Дзееў (3:1), Мінін (4:1). А вось на наступны дзень хоць мы першыя і адкрылі лік, ужо на 1.22 хвіліны гэта зрабіў Віктар Мінін, але перамогу захаваць не здолелі - 2:4. Аўтар другой закінутай шайбы ў браму гаспадароў - капітан «Нёмана» Аляксандр Пстыга, звяно якога ў гэтых гульнях выходзіла першым на лёд.

Сёння на сваім лёдзе з «Віцебскам» гарадзенцы праводзяць пятую сустрэчу ў Чэмпіянаце Беларусі (пачатак гульні - у 18.30). Не прымуць у ёй удзелу траўмаваныя яшчэ падчас венгерскага Кантынентальнага Кубка Ігар Сцефановіч і Вадзім Смірноў. Аднак у хуткім часе на прагляд у «Нёмане» павінен прыехаць шэраг расейскіх хакеістаў. Першы дэсант высадзіцца ўжо бліжэйшымі днямі.

**Чэмпіянат Беларусі** на сённяшні дзень ўзначальвае «Хімвалакно» (Магілёў) - 7 гульняў, 18 ачкоў; далей ідуць «Гомель» - 6, 13; «Палімір» (Наваполацк) - 5, 12; «Нёман» - 4,6; «Віцебск» - 5, 6; «Брэст» - 7, 4; «Керамін» (Менск) - 1, 0; «Юнацтва» (Менск) - 5,0.

## Саступілі тройчы

**Няўдала працягваюць выступленне гарадзенскія баскетбалісткі «Алімпіі» у Балтыйскай Лізе.**

У чарговых гульнях чэмпіёнкі Беларусі тройчы саступілі: Юнацкай зборнай Беларусі - 70:54, хельсінкскаму «Пантэрыту» - 82:62 і «ТПУ-Камбінэд» - 68:94.

*- Прычынай нашых паразаў сталі, - распавядае галоўны трэнер «Алімпіі»* **Аляксандр Шымкавяк**, *- псіхалагічныя праблемы ў калектыве. Мы недаацанілі суперніка. Напрыклад, юнацкую зборную наша каманда два тыдні таму разграміла ў Кубку Беларусі. А зараз ім саступілі. Да таго ж на гульні ў Менск мы ад'ехалі ў чатыры гадзіны раніцы, у дзень гульні з менчукамі. Якога ў дадзеным выпадку можна чакаць выніку ад гульні? Сярэдні працэнт рэалізацыі кідкоў у нашай камандзе быў катастрафічна нізкі - усяго 22.*

*У гульні з фінкамі ў нас не знайшлося баскетбалісткі, якая магла б узяць гульню на сябе. Апошняя сустрэча была роўнай. Дзяўчаты наладзілі гульню ў нападзенні. Аднак гэтым разам падвяла абарона. Убачыўшы, што не хапае нашым асноўным баскетбалісткам жаданняў, я ў апошній чвэрці задзейнічаў у гульні дзяўчат з лаўкі. Таму перавага тalінак і стала такой адчувальнай.*

КРОС

## Гродна лепшы ў вобласці

**Пераможна для лёгкаатлетычнай каманды нашага горада скончыўся розыгрыш Кубка вобласці па лёгкаатлетычнаму кросу, які ўжо традыцыйна праішоў у Лідзе і сабраў каманды ўсіх раённых цэнтраў Гарадзенскай вобласці. Гарадзенцы ў камандным заліку з веснавога другога месца ўзняліся на асеннее - першае.**

Усяго дзесяць з 30-ці спартоўцаў Гродна ўзняліся на п'едэстал, аднак і гэтага хапіла, каб з'ехаць дахаты пераможцамі.

На ліку гарадзенцаў тры першыя месцы: у Наталлі Кейко на дыстанцыі 3000 метраў (ва ўзроставай групе 1979 года нараджэння), Марка Раманчука - 4000 метраў (1981) і Аляксея Аніські - 500 метраў (1985). Павал Пеляпягін - 4000 метраў (1978), Андрэй Дзмітрэвіч - 2000 метраў (1986) і Генадзь Вярхоўднін - 3000 метраў (1983) - другія месцы, а Павал Зарэцкі - 3000 метраў (1983), Юрый Пеляпягін - 3000 метраў (1984), Мікалай Сцефановіч - 500 метраў (1989) і Віктар Гіль - 4000 метраў (1978) - трэція.

Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі

ЗДАРЭННІ

## Прычынай пажараў становяцца халады

**- Такога разгулу агню на Гарадзеншчыне не было ўжо некалькі месяцаў, - паведаміў ПАГОНІ Аляксандр Сувораў, супрацоўнік Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, аналізуючы жахлівую статыстыку пажараў.**

За мінулы тыдзень на Гарадзеншчыне адбылося 48 пажараў. Загінула шэсць чалавек, яшчэ два моцна пацярпелі. Звычайна за тыдзень фіксуецца не больш за 30 ўзгаранняў.

Рост колькасці пажараў у МНС тлумачаць надыходам халадоў:

- Людзі абаграваюцца ўсімі магчымымі сродкамі, у тым ліку, самаробнымі электрапрыборамі, - патлумачыў Аляксандар Сувораў.

Юлія Дарашкевіч

## Доказы не гараць

**Проста на вачах у супрацоўнікаў беларускіх праваахоўных органаў спрабаваў спаліць уласную аўтамашыну прадпрымальнік з Літвы.**

Тыдзень таму ля вёскі Акцянеі Ашмянскага раёна супрацоўнікі мясцовага РАУС спынілі аўтамабіль «Volkswagen Transporter», дзе было знойдзена дзесяць 200-літровых бочак з вадкасцю, якая нагадвала спірт. Для далейшага разбіральніцтва ўладальніка машыны, якім быў жыхар Літвы, накіравалі на штрафную стаянку пры Ашмянскім РАУС. Прыпаркаваўшы БУС, літовец падпаліў сігнальную ракету і кінуў яе ў кузаў машыны. Пасля чаго замкнуў аўтамабіль і выкінуў ключ.

На гора зламысніка, полымя ад ракеты скіравалася ў бок ад бочак са спіртам. Дзякуючы гэтаму пажар быў не такі моцны, і машына не зрагэла. Пажарная каманда, якая аператыўна прыбыла на месца здарэння, здолела пагасіць полымя.

Літоўскаму прадпрымальніку прад'яўлена абвінавачанне ў спробе наўмыснага знішчэння маёмасці.

ПАТ

СТАЖЫРОЎКА

## Fellowship announcement

The International Research & Exchanges Board (IREX) is pleased to announce an open competition for the FSA Contemporary Issues Fellowship Program. The deadline for this application is November 23, 2001.

The FSA Contemporary Issues Fellowship Program, a program of the Bureau of Educational and Cultural Affairs, US Department of State, under the Freedom Support Act, and administered by IREX, provides opportunities for experienced professionals and specialists in the New Independent States (NIS) to conduct policy-oriented research in the United States for four months.

This is a fully funded fellowship, covering travel, housing, stipend, medical insurance, and a professional development allowance. Fellowships are available to citizens of all 12 NIS countries, including: Armenia, Azerbaijan, Belarus, Georgia, Kazakhstan, Kyrgyz Republic, Moldova, Russian Federation, Tajikistan, Turkmenistan, Ukraine, and Uzbekistan.

All applications must contain developed and focused research projects that are policy-driven and have practical application in the NIS. Research projects must address one of the five following categories:

➔ Sustainable Growth and Development of NIS Economies in Transition;

➔ Democratization, Human Rights, and the Rule of Law;

➔ Political, Military, Security and Public Policy Issues;

➔ Strengthening Civil Society;

➔ Communications Revolution, and Access to Information.

Professionals eligible for the program include (but are not limited to) the following: government officials on the national, regional, and local level; leaders of nonprofit, nogovernmental organizations; library and information science specialists; public health administrators; economists; journalists; managers; environmentalists; consultats; political analysts; foreign policy experts; lawyers; Internet specialists; law enforcement specialists and other practitioners. Persons who are primarily working in an academic role should consider applying for the Regional Scholar Exchange Program, instead of the FSA Contemporary Issues Fellowship Program. Applications are available at: http://www.irex.org/rsep or contact an IREX representative.

At the time of the deadline, applicants must be at least age 24 but no older than age 55, have an academic degree of diplom or above, have at least three years of professional experience in the topic of their research, and possess a level of English language proficiency adequate to conduct independent research in the United States. Other eligibility requirements apply. Refer to the program application for more details.

Applications for the FSA Contemporary Issues Fellowship Program can be obtained and submitted by contacting IREX field offices and representatives in the NIS. Applications are also available at Educational Information Centers (EIC) and at IREX administered Internet Access and Training Program (IATP) Public Access Sites throughout the NIS and can be downloaded from www.irex.org or www.irex.ru.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл. 72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г. Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 31.10.2001 г. Замова 3050 Наклад 6 827

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Кампутарная вёрстка: Аляксей Салей
Кампутарны набор: Ірына Салей
Рэкламны менеджэр: Ната Сакалова